Год VII. ВЕРАСЕНЬ 1929 г. Кніжка 9 (29)




**Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.**



ЗЬМЕСТ:



**Цана асобнага нумару 30 гр.**

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6—10

# З практыкі для практыкі.

**Яшчэ адзін спосаб прыгатаўленьня непрамакаемага клею.** Бярэцца звычайны сталярскі клей, вымачваецца ў летняй вадзе да таго часу, пакуль ён добра не размокне; потым кладуць яго ў пасудзіну (гліняны гаршочак) з ільняным алеем і распускаюць на лёгкім агні. Як зусім уварыцца, гаршочак здыймаецца і клей гатоў. Ім можна склейваць розныя рэчы і як завераюць сталяры, такі клей не баіцца вады — непрамакаемы.

**Пладовае дрэва на пяску.** Пясок не адпаведны грунт для нашых пладовых дрэў дзякуючы сухасьці пясковых глебаў. Каб вырасьціць пладовае дрэва на такой глебе, выкапваецца яма (чым шырэй, тым лепш) глыбінёй $1^1/_4$ арш.; на дно ямы кладзецца слой гліны таўшчынёй адна чацьвёртая арш. і туга ўтрамбоўваецца. На такім грунце і на пясках можна добра расьці тыя дрэвы, якія вымагаюць для свайго росту шмат вады. Праца тут з лішкам аплачваецца добрым ураджаем.

**Як прыгатовіць цэмэнт.** Бярэцца 14 частак пяску і частка цэманту, добра перамешваецца і разбаўляецца вадой да кашыцы.

**Безапасныя коміны.** Бярэцца пясок, сьвежая вапна, гліна, кухонная соль (могуць быць розныя прапорцыі) зьмешваецца, разбаўляецца вадой і змазваецца ўнутраныя часткі сьцен коміна. Работа гэта праводзіцца пры будоўлі новых дамоў, аб пры пераробцы старых печаў. Такія коміны стаяць чыстымі, бо да падобных сьценак не прыстае сажа і яны безапасны ад агня.

# САХА

Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.


## Клопаты з ураджаем.

У той час, як Віленшчына перажывала вядомы нам голад, на сусьветным рынку асталося не спажытым каля 60.000.000 квінталаў збожжа. Сягоньня, трэба спадзявацца, што ў зсувязі з добрым ураджаем і эканамічным крызысам, гэты неспажыты люднасьцю запас павялічыцца ў некалькі раз. Такім чынам, пэрспэктыва для нашых буйных земляўласьнікаў нічога добрага ня суліць. Капіталістычныя дзяржавы стараюцца як найхутчэй выпіхнуць свой глеб па замежы сваей дзяржавы, адначасна павышаючы мыта на заграничныя прадукты земляробства. Цэны на збожжа — гэты чуткі баромэтр рынку, катастрафальна пачалі спадаць, што аканчальна напалохала абшарнікаў усіх краёў, якія голасна дамагаюцца ад сваіх урадаў усялякіх ільгот і навет фінансавай дзяржаўнай дапамогі на вываз заграніцу тухлеючага ад лежкі свойго хлеба.

Гэта паніка на сусьветным збожжавым рынку не магла не зачапіць і нашых абшарнікаў, якія, бачачы, што іх хлеб зусім абязьцэньваецца ў адношаньні да фабрыкантаў, падняли трэвогу і пачалі рабіць настут на Урад, каб апошні дапамог выйсьці хлебным прадуцэнтам з гэтага прыкрага палажэньня. На першы пачатак эканамічны камітэт у Варшаве пад старшынством прэм'ера Рады Міністраў адгараджваецца ад таннага заграничнага хлеба: на паседжаньні камітэту ад 18 гэтага месяца ўвоозіцца на прывознае збожжа даволі высокае мыта—да 16 зл. 50 гр. за 100 клгр на некаторыя замежныя прадукты земляробства. Трэба спадзявацца, што будуць прыняты і іншыя крокі для ліквідацыі «бяды ад ураджая».

Як-жа атаб'ецца стварыўшаяся сытуацыя наўкол хлеба на беларускім селяніне?

Беларусь, як край пераважна з карлікавымі гаспадаркамі, абыйдзеная усімі аграрнымі рэформамі, за выняткам асадніцтва, ліквідацыі сэрвітутаў і камасацыі, не адчувае вострай патрэбы ў вывазе свайго хлеба па замежы свайго краю і ў гады добрага ўраджаю. Перажыўшы падрад некалькі гадоў недаяданьня, а частка Віленшчыны мусіць яго перажыць і сёлета, наш селянін прызвычаяўся да мінімальных патрэбаў у фабрыкатах, аддаючы ўсе «лішкі» сваей працы на розныя бязьлічэбныя падаткі. Той лішак хлеба, які можа знайсьціся у больш шчасьлівых гаспадароў, трэба думаць, яшчэ ня стухлеў і можа пачакаць лепшых дзён, або ўжыты ў уласнай гаспадарцы для сваей жывёлагадоўлі. Зразумела, што мяняць пуд жыта сягоньня на 5—6 васьмушак махоркі— ня кожны і заможны гаспадар рызыкнець. Сягоньняшні „Indeks numbers“*), які прыводзіць у паніку абшарнікаў і капіталістаў усяго сьвету і які яшчэ раз падкрэсьлівае, што ў капіталістычнай гаспадрцы ня «ўсе добра творыцца», мала палохае нашага дробнага гаспадара на вёсцы.

Клопаты абшарнікаў наўкол хлебнага крызысу, багатага рознымі неспадзянкамі, мала датычыць «клопатаў ашмянчука».

## Вапна—магутны рычаг для павышэньня ураджайнасьці нашых глебау.

З даўных часоў, як толькі чалавек перайшоў да землеробства, думка гаспадара бязупынку працуе над шуканьнем новых, больш удасканаленых спосабаў павышэньня ўраджайнасьці сваей глебы, а гэтым самым і паляпшэньня свайго матэрыяльнага быту. Гэтае шуканьне прыймае асабліва інтэнсыўную форму з часу, як быў заўважаны брак свабоднае зямлі. З гэта часу земляробства перастае быць толькі заняткам земляроба, а становіцца прадметам навукі, якая бярэ земляробства ў цэлым над пільную сваю абсэрвацыю, старанна і ўсебакова яго выўчае і на падставе гэтае абсэрвацыі і дасьледчае працы адкрывае для гаспадара ўсё новыя законы.

*) Лічбовыя паказальнікі, на аснове якіх параўнаюць у розныя часы цэны на ўсе тавары.

Яшчэ ня так даўно гаспадар, культывіруючы на сваей ніве бабовыя расьлінкі, ня ведаў пра іх ролю ў сельскай гаспадарцы. Толькі з часу, як навука адкрыла прысутнасьць дробненькіх дабрадзеяў гаспадара—мікробаў на карэньнях бабовых расьлінах, і іх карысную працу, гаспадар змог скарыстаць з гэтага адкрыцьця.

У апошнія часы дасьледчыя станцыі, пасьля доўгіх досьледаў, адкрылі, што вапна ў глебе—гэта лекі для хворае зямлі. З гэтага адкрыцьця скарысталі Немцы, якія ў астатнія часы пры дапамозе вапны перавялі свае забалочаныя абшары ў красуючыя нівы і сенажаці.

У чым-жа хаваецца цудоўная для нашых глебаў моц вапны?

Галоўнымі спажыўнымі для культурных расьлін элемэнтамі зьяўляюцца: азот, фосфар і часта паташ (калій). Як бачым, вапна, як спажыўны складнік глебы, тут ня фігуруе. І праўды, хаця вапну знаходзім у складзе расьліны, але, як спажываю для расьліны, нашы глебы маюць яе ў дастатку. Здавалася б, што унясеньне яе ў глебу будзе не мэтазгодным. Між тым, як паказваюць досьледы, унясеньне вапны на шмат якіх глебах, робіць вялізны ўплыў, які назіраецца да 10 гадоў. Тут вапна адыгрвае ролю ў спажываньні расьліны не непасрэдную, а ўкосную. Заўважана, што унясеньне ў глебу іншых дарага каштоўных угнаеньняў, апошнія бяз вапны дзеюць няпоўна, а пры нашым клімаце і прапушчальных грунтах, хутка выпаласкваюпца. Дзеяньне вапны на глебу ўсебаковае: яна служыць спежывай для расьліны,—дзе вапны зусім у глебе няма, паляпшае фізычныя ўласьцівасьці глебы, робячы іх структурнымі. Гліны ад вапны прыймаюць больш рыхлую пабудову, а пяскі зьвязлую. Кіслыя глебы, на якіх ня любяць расьці культурныя расьліны, ад прысутнасьці вапны пераводзяцца ў нейтральныя. Нарэшце, ад прусутнасьці у глебе вапны, мёртвы баласт глебы хімічным спосабам пераводзіцца ў даступную для расьлінкі спажыву.

Усходнія беларускія дасьледчыя станцыі даводзяць, што нашы глебы патрабуюць каля 1 з паловай тонны вапны і гэтым павялічваюць прыбытак на ўраджай да 56 рублёў. Як відаць, прыбытак на столькі значны, што на яго трэба зьвярнуць увагу і нашым гаспадаром.

Каб перайсьці да ўжываньня вапны, трэба даведацца, ці патрабуе яе наша глеба, для чаго існуе шмат спосабаў, над прасьцейшымі з якіх мы тут затрымаемся.

*Адзначэньне вапны ў глебе па колеру апошняй.* Калі глебавая вада афарбавана ў **карычневы колер**, ці паверхня пакрыта зеленаватай зялезістай пленкай, тады глеба мае значныя патрэбы ў вапне. Такі колер бывае звычайна на лясных і балоцістых глебах.

Калі-ж на разрэзе глебы можна прыкмеціць белыя плямы, палоскі або жылкі, дык гэта сьведчыць, што глеба вапну мае і на яе не рэагуе.

*Дзікая і культурная расьліннасьць* вельмі часта можна паказваць на патрэбу вапны ў глебе. Такія расьліны, як нашы гігелі (хвашчы), шчавель, шпэргэль, мхі, папаратнікі, сітнікі, асака, часта—пырэй, палявіцы, душысты каласок і іншыя балоцістыя віды расьлін **выразна гаворыць аб недахопе ў глебе вапны.**

Калі на нашых сенажацях і палёх ня любіць расьці канюшына, гэта таксама сьведчыць, што глеба патрабуе вапны.

Такія-ж расьліны, як дуб, бук, акацыя, чырвоны мак, званец, белакапытнік—гавораць аб прысутнасьці у глебе вапны ў дастатку.

*Хваробы расьліны, як кіла* на капусьце, бручцы, рэпе і іншых выразна гавораць аб патрэбе вапны, якой можна змагацца на нашых гародах і палёх з кілой і іншымі хваробамі.

*Прасьцейшыя хімічныя мэтоды. 1-спосаб.* Бярэцца (10-20°/₀). **салянай кіслаты** (можна купіць у аптэцы), і абліваецца камок зямлі, якую перад гэтым трэба палажыць у шклянку, дык глебы багатыя вапнай, шыпяць і выдзяляюць пузыркі газу. У праціўным выпадку, трэба думаць, што ў глебу варта ўнесьці вапну.

*2-й спосаб.* Беднасьць ці багацьце вапнаю глебы можна адзначыць і **лакмусовай панерай**, якую істужкамі прадаюць аптэкі. Дзеля гэтага бярэцца трохі на сподачак зямлі, разбаўляецца вадой у кашыцу, потым сінюю лакмусоваю паперу напалову яе даўжыні трэба палажыць ў кашыцу на некалькі хвілін. Потым лакмусовая папера выймаецца, ачышчаецца ад грудак зямлі і кладзецца на чыстую белую (звычайную) паперу. Калі сіняя лакмусова папера робіцца чырвонай, дык гэта сьведчыць, што **наша глеба вельмі бедна вапнай.**

Калі-ж мы паложым чырвоную паперу і яна цераз паўгадзіны перарабіцца ў сінюю, дык гэта гаворыць, што **наша глеба мае штат** вапны.

Самы лепшы спосаб вызначэньня вапны ў глебе, гэта „заппытацца" у самой расьлінкі. Калі яна на ўнясеньне вапны добра рэагуе, гэта значыць, што ў глебу трэба ўносіць вапну. Падобная „гутарка" з расьлінкай вядзецца пры дапамозе **палявых досьледаў**, разгляд якіх ня ўходзіць у заданьне нашага артыкулу.

Агульніваючы усе вышэй сказанае, трэба падкрэсьліць, што на Беларусі,—краіне з падзолывымі глебамі і дажджывым клімаце, большаю часткаю мы будзем спатыкацца з глебамі, беднымі вапнай. Апошняя тут дапамагае затры-

маньню для расьлінкі ўнесенага ў глебу ўгнаеньня, якое бяз вапны хутка выпаласкваецца. Аднак, калі доўга класьці ў глебу адну вапну, мы можам абязьсіліць глебу. Вядомае нямецкае прыслоўе, што „вапна робіць багатымі бацькоў, а дзяцей жабракамі“—вынік няўмелага ўжываньня вапны, што адбылося ў сярэдзіне XIX-га веку у Нямеччыне. Толькі за астатнія гады, пры ўмелым ужываньні вапны, немцы дабіліся ад яе вялікіх пасьпехаў.

Уносячы вапну там, дзе мы даведаліся, што яе няхапае, мы мусім памятаць, што вапна тут ідзе не на спажыву культурнай расьлінцы, а на лекі нашых хворых глебаў.

У. Павалковіч.

---

А. Гуркі

## Даўгавечнасьць жыцьця жывелаў.

Ня ўсе жывёлы жывуць аднолькова доўга. Кожны, хто добра знае дамашніх жывёлаў, напэўна заўважыў гэта. Калі-ж узяць пад увагу ўсе жывёлы наогул, дык розьніца веку іхнага жыцьця бывае часта вельмі значная. Ёсьць жывёлы, якіх жыцьцё трывае толькі некалькі дзён, а ёсьць і такія, што дажываюць да гадоў цзьвесьце — трыста.

Чаму-ж гэта так бывае? Над высьненьнем гэтага пытаньня працуюць вучоныя не ад сяняшняга дня. І няма нічога дзіўнага, што ад вырашэньня гэтае задачы можа залежыць прадоўжаньне людзкага жыцьця.

Наглядаючы жывёлаў дамашніх, бачым, што большыя з іх жывуць даўжэй, а меншыя карацей. Тое самае даецца заўважыць і на цэлым радзе іншых жывёлаў. Мыш, прыкладам, можа жыць 3 гады, кот — 20 і 25 гадоў, а затое слонь можа дажыць аж да 150 гадоў. З гэтага можна было б дапусьціць, што даўгавечнасьць жывёлаў залежыць ад разьмераў іхнага цела... Аднак-жа гэта ня так. Дасьледжваньні паказалі, што такое прыпушчэньне стасуецца адно-толькі да ссуноў (ссуны, жывёлы ссучыя, тыя, што родзяцца жывымі і кормяцца малаком сваіх матак). Бо кот жывець 20 з лішнім гадоў, а варона, прыкладам, можа дажыць да 70! Маленькая мурашка можа жыць так доўга, як большая за яе ў дзесяткі тысяч разоў авечка — 12 гадоў. Вол дажывае 30 — 40 гадоў, а, прыкладам, шчупак—дзьвесьце і колькідзесяць гадоў. Дзікія гусі жывуць па 100 гадоў, а чарапахі па 175. З гэтага бачым, што незаўсёды доўгавечнасьць жыцьця жывёлы залежыць ад вялічыні ягонага цела. Толькі ссуны — і то незаўсёды — падлягаюць гэтаму правілу.

Вучоныя, дзякуючы доўгалетнім дасьледжваньням жыцьця жывёлаў, здолалі больш-менш устанавіць — колькі

часу некаторыя з жывёлаў могуць жыць. За меру жыцьця ссуноў прыняты час іхнага росту; даведзена, што жывёла ссучая можа жыць у 5 разоў даўжэй, чым расьцець Значыцца, калі жывёла расьцець у працягу 5 гадоў, дык можа яна жыць 25 гадоў. Але, ці гэтыя аблічэньні спраўджаюцца заўсёды? Бо, каб так ўзапраўды было, дык-жа чалавек, каторы расьцець часта да 25 і 30 гадоў, павінен быў-бы жыць каля 150 гадоў. Ці-ж бы вучоныя памыляліся ў сваіх вывадах? Не, не памыляліся, але чалавек, як і шмат жывёлаў, уміраe перадчасна. Чаму-ж бывае так? Чаму-ж птушкі бываюць так доўгавечныя? Вось і гэтую загадку вучоныя ўжо частков вырашылі.

Вядомы расейскі вучоны (памёр ён ужо) Мечнікаў даводзіў, што прычынай перадчаснае сьмерці ссучых жывёлаў—тым самым і чалавека-зьяўляюцца, паміж іншым, грубыя іх кішкі. Людзі і ўсе ссучыя жывёлы маюць залішне-даўгія грубыя кішкі, якія служаць адно толькі для пэратрымліваньня набраўшайся астачы нестраўлёнай ежы (у форме калу). Птушкі, рыбы і іншыя жывёліны маюць грубыя кішкі вельмі-значна карацейшыя; дзеля гэтага кал ня мае дзе затрымлівацца і яны выкідаюць яго часьцей, як жывёлы ссучыя. Розьніцу ў будове кішак ссучых жывёлаў выясьняе Мечнікаў тым, што гэтыя жывёлы мусілі мець запэўненай як-найболчшую свабоду руxaў, мусілі (і мусяць) неаднакроць вельмі шыбка бегаць, ці то гонячыся за здабычай, ці ўцякаючы таксама ад загражаючай небясьпекі, а ў бегу-ж выпаражняць кішкі трудна. Жывёла або зьвер, бягучы, усільна працуе мускуламі задніх ног, выпаражніваньне тады утрудняецца рухам ножных мускулаў; каб выпаражніцца, дык мусіць жывёла звольніць бег ці затрымацца, але-ж затрымліваючыся дазваляе яна ўцячы даганянай здабычы, або — калі сама ўцякала ад даганяўшага ворага — наражаецца на злоўленьне. Значыцца, бегаючая жывёла затрымлівае свае калавыя масы ў грубых кішках аж да адпаведнай, свабоцнай хвілі. Такое прымусовае затрымліваньне калу справіла тое, што грубыя кішкі жывёлаў праз сотні тысяч пакаленьняў разьвінуліся яшчэ больш, бо адпадкі ежы затрымліваліся у іх што-раз даўжэй, выпаражніваньне адбывася што-раз радзей. Птушкі, якія ў лёце працуюць пярэднімі канцамі — крыльлямі, могуць свабодна апаражняцца ў любой хвілі, тое самае і рыбы. Ім, значыцца, не зьяўляюцца патрэбнымі грубыя кішкі вялікіх (даўгіх) разьмераў.

Награмаджаны ў жывёлавых і людзкіх грубых кішках кал раскладаецца шыбка, разьвіваюцца ў ім мільярды бактэрый і ледзьве адныя пасьпеюцца быць разам з калам выкіненыя, як ужо разьвіваюцца новыя мільярды — і так кожнага дня. (Бактэрыі — інакш мікробы — гэта бязьмежна-малюсенькія жывулькі, якія ня могуць быць дабачаны

голым вокам; разьвіваюцца, памнажаюцца яны з нябывалай шыбкасьцю). Бактэрыі гэвыя ці мікробы выдзяляюць з сябе атруту, яд, які затручвае ўвесь арганізм, праўда не адразу, бо бактэрыі зьяўляюцца такімі дробнымі жывулькамі (у каплі вады месьцяцца іх цэлыя тысячы), што ня могуць выдзяліць яны з сябе шмат атруты, але калі дзень за днём зьбіраецца ў нас па друбінцы яду, дык з бегам гадоў награмаджаецца яго дастатачная колькасьць, каб аслабіць арганізм, а праз гэта і скараціць жыцьцё. Не адзін раз напэўна кожны мог заўважыць, што калі маем доўгі запор (не апаражняем грубых кішак некалькі дзён), дык зачынаем адчуваць прыкрыя рэчы: нудзіць, баліць галава, ташніць, баліць нутро, дастаём часамі высыпку на скуры (здараецца часта высыпка ў дзяцей), а ня ведаем, з чаго гэта паўстае. Вот-жа іменна з таго яду, з тае атруты, якую выдзелілі бактэрыі, што разьвіліся ў нявыкіненым кале, а гэная атрута, застаючыся даўжэйшы час ў нашым арганізьме, зачынае прысьпешна дзеяць.

Птушкі — як вядома — маюць грубыя кішкі ў шмат разоў карацейшыя як у ссучых жывёлаў, дзеля гэтага птушкі ўнікаюць такога затручваньня, адходкі іх ня маюць дзе затрымлівацца даўжэй, а тым самым не разьвіваецца ў іх гэткая маса бактэрый, не затручваецца іхні арганізм, а дзеля гэтага птушкі і жывуць даўжэй. Есьць і птушкі з доўгімі грубымі кішкамі, прыкладам стравус, але ён не лятае, а бегае; уцякаючы ад ворага, ён працуе нагамі, выпаражняцца ў часе шыбкага бегу ня можа, кішкі грубыя прымушан мець даўжэйшыя, а затое і жывець карацей за другія птушкі, не зважаючы на тое, што адпаведна да сваіх вялікіх разьмераў ён павінен жыць значна даўжэй. Пражывае стравус 45 гадоў, тады як — прыкладам — ястраб жыве 118 гадоў. — І наадварот — бываюць ссуны з кароткімі грубымі кішкамі. Прыкладам, кажан — жывёліна ссучая, але жыве як птушка — лятае, мае, значыцца, грубыя кішкі кароткія і жывець вельмі доўга ў стасунку да сваей велічыні, бо аж 30 гадоў, калі роўная яму разьмерамі мыш жыве толькі 3 — 4 гадоў. Як бачым, ёсьць выняткі сярод розных груп жывёлаў — як сярод ссуноў, так і сярод птушак — але ўласьне гэтыя выняткі падцьвярджаюць толькі тое, што даўжыня грубых кішак уплывае на зьменшаньне доўгавечнасьці жыцьця ўсіх жывёлаў. — Чалавек праводзіць жыцьцё сваё зусім інакш як чатырохножныя жывёлы, дык адкуль-жа ён мае доўгія грубыя кішкі? А вось адкуль. Доўгія грубыя кішкі перайшлі да нас як спадчына ад нашых продкаў-жывёлаў (якія карысталіся спачатку ўсімі чатырма канчынамі ў часе хады, бегу, лазаньня); розныя тэй спадчыны рэшткі можам і цяпер яшчэ на сабе заўважыць, прыкладам залішнія валасы на целе, косткі хваста

(прадоўжаньне сьпіннага хрыбта), некалькі непатрэбных ужо цяпер пазванкоў („конікаў“).

Здараліся ужо не адзін раз выпадкі, што дактары мусілі выразаць хвораму часьць грубых кішок, і чалавек той мог жыць без іх. Можа некалі будзе магчымым наогул грубыя кішкі выдаляць?

Тымчасам навука мае яшчэ іншыя способы для змаганьня з тым злом, якое прычыняе нам залішняя даўжыня грубых кішак. Навуковыя дасьледжваньні ўстанавілі, што істнуюць такія бактэрыі, якія зьяўляюцца карыснымі для арганізма, бо забіваюць яны тых шкадлівых, што разьвіваюцца ў грубых кішках. Такія карысныя для нас бактэрыі размножваюцца — прыкладам — ў малацэ і спрычыняюцца да скісаньня яго. Дзеля гэтага нязьбітай ёсьць праўдай, што квашанае (кіслае) малако зьяўляецца вельмі карысным для здароўя ўласьне з тэй прычыны, што яно мае ў сабе мікробы, якія зьяўляюцца ворагамі забойчых кішковых мікробаў.

Аднак-жа няможна мысьліць, што залішняя ў нас даўжыня грубых кішбк зьяўляецца адзінай толькі прычынай, скарочваючай жыцьцё. Яшчэ ёсьць цэлы рад варункаў унутраных і вонкавых, якія уплываюць на доўгавечнасьць жыцьця*).

Пераклаў *Бутрым Каляда.*

# Катар дыхацельных шляхоў.

**Паводле Шмулевіча.**

Гэту хваробу сяляне часта зьмешваюць з дыхавіцай, ад якой катар адрозьніваецца больш павярховай формай хваробы дыхацельных шляхоў, у той час, як пры дахавіцы, хвароба захапліває ня толькі паверхню лёгкіх, але зьмяняе і унутрунаю будову іх.

На катар дыхацельных шляхоў захварваюць большаю часткаю маладыя, слабыя коні, вясной і ўвосень.

Выклікаючымі прычынамі служаць: прастуды, нясталая, сырая пагода. Хвароба гэта можа абмяжавацца толькі сьлізістымі часткамі носа, але часта пераходзіць на сьлізістыя часткі горла, на бронхы лёгкіх, а таксама і вочэй. Прыкметы гэтай хваробы бываюць суадказна ходу хваробы. Сьперша зьяўляецца сухасьць унутранасьці носа, якая робіцца сільна чырвонай і гарачай. Потым пачынае паказвацца з носу жыжа, перш празрыста-вадзяністая, а потым

*) У лічбе гэтых шкодных варункаў стаіць—паміж іншымі—і прывычка некатарых людзей спаць на левым баку. (Увага перакладчыка, зачэрпненая з другіх навуковых крыніцаў).

мутная, густая, падобная на бруд. Выцяканьне з носу жыжы або бруду сьпярша паступова павялічваецца, а потым паменшаецца і дзён цераз 8—14 зусім спыняецца. Пры далейшым распаўсюджваньні хваробы да катаральных працэсаў далучаецца трасца (тэмпэратура 39-40°, пульсаваньне 50) Трасца вечарам павялічваецца, а раніцай слабее. Разам з гэтым у каня бывае знураны від, апэтыт паменшаецца і выхад калу затруднены. Дыханьне робіцца часьцей і зьяўляецца часты, сухі і карадлівы кашаль. Апрача гэтага, часта ад награмаджэньня клейкай жыжы, бывае прыпуханьне ўнутраннасьці носу і апуханьне падсанкамі, што зьменшаецца або зусім праходзіць разам з выхадам з носу макрот.

Калі гэты катар запушчаны ад недагляду, дык ён можа перайсьці ў хранічнае становішча, асабліва, калі жывёла не захавана днём і уноччу ад дзеяньня няспрыяючай пагоды. Тут хвароба можа перайсьці на запаленьне лобавых і падсанкавых частак, бывае боль у зубах, задзержваецца макрата ў носе і г. д. Жалёзы ў каня падсанкамі павялічаны і хвароба робіцца падобнай да насавіцы (сапу). Вось тут, калі з носу будзе iсьці доўга бруд, павінна гаспадара навадзіць на думку аб насавіцы, дзеля чаго такіх коняй зараз-жа трэба адлучыць ад другіх і неадкладваючы паказаць вэтэрынару.

**Лекі.** Востры катар не вымагае асаблівых лекаў. Тут можна абмежавацца разумным і пільным даглядам за жывёлай, захоўваючы яе ад праступ і цеграсьмернага разгарачэньня ў памешканьні. Корм трэба даваць мяккі (летам зялёны) і цёплае пойла з дамешкай глаўбэркі або кухоннай солі. Пры запушчанай форме катару пажадана даць унутр ванітнага камяня аднаго, або разам з нашатырам і укропам, прымушаюць каня ўдыхаць цёплыя пары атвару ячменя; у часе запаленьня даюць лакрычнага парашку (дастаць у аптэцы) $1/2$ ун., ільняной мукі 1 ун., дзёгцю $1/2$ др. і мёду $1/2$ др, на 1 раз, што выклікае аддзяленьне з носу макрот, а для ўдыханьня робяць араматычныя пары з патрухі сена. Пры сухім карадлівым кашлю даюць 5 драх. нашатыру, 2 $1/2$ др. опія $1/4$ ф. караня лакрыцы: з усяго гэтага робіцца кашыца і даецца 6 разоў цераз кожныя 2 гадзіны. Пры хранічным становішчы катара даюць унутр ванітны (рвотны) камень, нашатыр, серку, выцяжку з блёкату, аір, палынь, вераскавыя ягады, шкіпінар, дзёгаць. Пры гэтым гаспадару трэба пастарацца падняць дзейнасьць скуры пільнай і акуратнай яе чысткай і час-ад-часу расьціраць шчоткай або суконкай і даваць добры, мяккі і спажыўны корм. Пры запаленьні лобных касьцей і падсанак—уціраюць серка-ртутную мазь.

Яшчэ раз трэба адзначыць, што калі заходзіць падоз-

ранасьць, што конь захварэў на пасавіцу, дык каб не заразіцца самому чалавеку, трэба зараз-жа зьвярнуцца да вэтэрынарнага доктара.

Прыгатаўленьне пароў з патрухі сена — ўсім вядома. Для атрыманьня пароў з дзёгцю, дзёгаць выліваецца на гарачыя камяні. Пары удыхаюцца канём да таго часу, пакуль з носу ня пойдзе зусім чыстая вада і бледная сьлізістая часка носу не пачарванее, для чаго патрабуецца часу—10-20 мінут. Лепш за ўсе, каб конь удыхаў пары ў маленькім, шчыльна запіраючымся памешканьні, куды напускаюць толькі пароў, каб чалавек мог там спакойна дыхаць.

## Аб няплоднасьці саду.

Звычайна сады на Беларусі пасьля году ўраджаю стаяць другі год без пладоў. Гэтаму шмат прычынаў, да якіх належаць: няўдалы падбор асартымэнту саду, кліматычныя ўмовы Беларусі, дзе вясной, у часе цьвяценьня саду, часта цьвяты на дрэве ня могуць апылкавацца, потым слабае разьвіцьцё ў нас пчалярства, якое прычыняецца да апылкаваньня дрэва і іншыя. Але побач з пералічанымі прычынамі няплоднасьці нашых садоў, нельга прамінуць самую галоўную — малую зацікаўленасьць садоўніцтвам нашае вёскі, якая глядзіць на сад, бадай, як толькі на забаву для дзяцей. А як вынік усяго гэтага — нашы сады, калі ўпачатку і пладаносяць, дык дрэвы ад недагляду і неправільнага яго ўзгадаваньня хутка пачынаюць хварэць і прападаюць.

Зразумела, што калі гаспадар пажадае атрымаць са свайго саду даход, дык ён мусіць пакахаць садок і адпусьціць для яго трохі часу.

У гэтым нарысе мы ня будзем разгляць усіх спосабаў паляпшэньня няплоднага саду, з якімі будзем знаёміцца ў далейшых нумарох „Сахі“, а затрымаемся тут толькі над тым выпадкам, калі дрэвы ў нашым садку растуць буйна, ствараюць густую крону, а ўраджаю пладоў не даюць.

Ад першага ўзроку на такі сад становіцца зразумелым, што прычынай няплоднасьці саду тут будзе не брак спажывы для дрэва, а бадай яе лішак, асабліва азоцістых складнікоў.

Пішучаму гэтыя радкі ўдавалася іншы раз выклікаць пладанашэньне ў такіх садох унясеньнем попелу з дроў ліставых парод, які трэба пасыпаць па зямлі там, дзе канчаецца крона. Пасыпаньне попелам каля самага ствала ніякіх, як гэта і трэба спадзявацца, вынікаў ня дае. Замест попелу, або разам з ім можна ўжываць супэрфасфат або тамасоўку, і калійныя угнаеньні. Калі сад буйна расьце

і не дае пладоў, ніколі няварта ўносіць тых угнаеньняў, якія выклікаюць рост вэгэтацыйных органаў, а іменна: хлеўны гной, кампост, чылійскаю сялетру і іншыя азоцістыя угнаеньні, пры дапамозе якіх мы пладоў ня створым.

Але пералічаныя спосабы змаганьня з няплоднасьцю буйна растучага дрэва ня кожны раз даюць пажаданыя вынікі. Тады гаспадар з мэтаю выклікаць стварэньне пладовых паростаў на дрэве, мусіць абрэзаць частку корней. Для гэтага, на некаторай адлегласьці ад ствала, гледзячы на велічыню дрэва, капаюць наўкол яго роў і адсякаюць усе спаткаўшыся карані; разам падкапваюцца пад галоўны карэнь, які ідзе ўніз і стараюцца яго перасячы. Гэтым мы зьменшваем здольнасьць дрэва да росту і можам выклікаць пладанашэньне.

Часта можна назіраць, як садоўнікі на маладых, буйна растучых але непладанасячых дрэвах, прывязваюць галінкі ў напрамку да зямлі. Такое адхіленьне галінкі, хаця і робіць дрэва нязграбным, але выклікае на галінцы рост пладовых пупышак.

Да мерапрыемстваў, выклікаючых на дрэве рост пладовых галінак замест раставых, трэба далічыць надрэзку галінак дрэва, параджэньне кроны і баразнаваньне ствала, падрабязны агляд якіх тут ня будзем рабіць, бо гэта апэрацыя можа рабіцца з рызыкай для жыцьця дрэва і вымагае спэцыяльнасьці, зручнасьці і знаемства з законамі жыцьця дрэва.

Калі гаспадар хоча выклікаць пладанашэньне на буйна-растучых дрэвах, ужываецца рызыкоўны спосаб: дрэва туга абцягваецца іржавым дротам, які пакідаецца на ствале, каб ён урос у дрэва. Дзякуючы хэмічнай рэакцыі, якая адбываецца ў дрэве ад злучэньня сокаў астатняга з жалезам ці ад мэханічных прычынаў, рух соку ў дрэве ад дроту, уросшага ў ствол, зьменшваецца, а вынікам гэтага — пачынаецца рост пладавых галінак.

Такія дрэвы, рост якіх няможна затрымаць пералічанымі спосабамі і выклікаць на іх пладашэньне — трэба выкапаць, абрэзаць частку каранёў і перасадзіць на новае месца, менш угноенае.

Заканчваючы гэту гутарку, трэба сказаць, што некаторыя сарты дрэў, як Бабушкіна, наагул з моладу марудзіць з пладанашэньнем. Такія сарты пажадана шчапіць на скорасьпелых дзічках, як дусен, райская яблыня.

Зразумела, што выклікаць пладанашэньне на яблынях хілых ад браку спажывы, трэба ўвагу скіраваць на папаўненьне гэтага браку. Тады і азоцістыя угнаеньні, разам з фосфаравымі і паташовымі ня будуць шкодны, як у выпадку, апісаным ў гэтым нарысе.

*У. Павалковіч.*

# Гаспадарчыя парады.

**Пытаньне.** Ці можна перасаджваць старыя пладовыя дрэвы? П. Бодроўскі.

**Адказ.** Перасадку зусім старых дрэў, трэба думаць, што будзе рабіць рызыкоўна. Глядзіце артыкул „як перасаджваць старыя дрэвы“ у „Сасе“ № 8 за 1928 г.

**Пытаньне.** Як палепшыць заліўныя сенажаці, на якіх расьце дзікая трава? Васіль Саўчыс.

**Адказ.** Калі заліўныя сенажаці даюць дзікую расьліну, дык для паляпшэньня трэба перш-на-перш іх асушыць. Без асушкі ня мэтазгодна рабіць тыя ці іншыя паляпшэньні. Больш падрабязна дае адказ на Вашы пытаньні артыкулы „Сахі“ за 1927 г. №№ 4, 5 і 6—7, камплекты якіх раілі-б мець кожнаму чытачу і сьвядомаму селяніну. Рэдакцыя, жадаючы, каб іх набывалі як найбольш нашых чытачоў, прадае па зьніжанай цане - 1 зл. 15 гр. за камплект 1927 г. і 1 зл. 50 гр. за 1928 г. Можна набыць непасрэдна ў Рэдакцыі „Сахі“, якая бярэ перасылку на свой кошт.

**Пытаньне.** Дайце параду, які гатунак лёну найлепей удаецца ў нас, якія вымагае глебы і сколькі патрэбна насеньня на дзесяціну? Я. Асацік.

**Адказ.** Мясцовыя дасьледчыя станцыі мала працавалі над пытаньнем, які гатунак лёну найлепш надаецца для ўмоў Зах. Беларусі. Трэба спадзявацца, што падзьвярждаюць і практыкі ільняводы, для нас будзе адпаведным гатункам лён-даўгунец—пскоўскі, які чамусьці яшчэ ў нас завецца латвійскім. Дастаць можна ў ральнічых складах у Вільні.

Найадпавяднейшай папярэдняй культурай для лёну будзе канюшына, а таксама акаповыя (буракі, бульба) пад якія кладзецца гной. Безпасярэдня гной (хлеўны) пад лён класьці ня раіцца. Ад глебы лён мала вымагае і родзіць на усялякіх землях, абы не на пустых і сухіх пяскох. Старанная апрацоўка зямлі пажадана яшчэ з восені, а калі лён будзе сеяцца па каласавых хлябох, ды апошнія плытка трэба загараць зараз па здыйму хлеба, а ральлю забаранаваць, каб выклікаць дружны ўсход сарнякоў. Такую ральлю на зіму ўзараць глыбока. Вясной, каб ня высушыць глебу, трэба як толькі падсохне зямля, яе пабаранаваць. Дзеля гэтага ня раіцца такую зямлю перад пасевам глыбока араць, а абмежавацца плыткай воркай, а яшчэ лепш было-б, каб падрыхтаваць глебу толькі скарафікатарам. Сьпяшыць з вельмі раньнім пасевам лёну нельга, каб падрыхтоўкай зямлі зьнішчыць сарнякі, але трэба памятаць, што ў сухія гады раньні лён большаю

часткаю на сухіх глебах лепш удаецца. Лён добра аплачвае штучныя ўгнаеньні —калійныя, а таксама і фосфаравыя. На дзесяціну патрэбна насеньня лёну каля 80 кілёгр.

Вязаць снапы лёну лепш ільнянай саломай, бо іншая абіваецца на якасьці валакна.

**Пытаньне.** Што такое за сыстэма земляробства Losowa і ці надаецца яна для нашага краю. Пажадана, каб „Саха" адпусьціла старонку для артыкулу сыстэмы Losowa. Сяргей Пірач.

**Адказ.** Сыстэма земляробства Losowa — гэта ёсьць сыстэма нямецкага доктара Бурмэстэра з нязначнымі драбязговымі зьменамі. Польскія часопісі з пагляду патрыятычных, прапагандуюць гэту сыстэму як Losowa.

Выраб зямлі па сыстэме д-ра Бурмэстэра „Саха" зьмясьціла асобным артыкулам у кніжцы 6—7 за 1927 г.

# Куток для гаспадынь.

## Як прыгатовіць гарбатную (чайную) каўбасу.

Бярэцца 1 клгр. нятлустай сьвініны, 1 клгр цяляціны, прапускаецца 2 разы цераз мясакрышылку; потым $^1/_2$ клгр. сала рэжыцца малюсенькімі кусочкамі; мяса пасаліць, дабавіць зусім малай порцыі сялетры, пасыпаць буйна патоўчаным перцам, вымесіць рукамі, падліваючы паступова халоднай вады, выбіць лапаткай і палажыць сала. Кішкі набіць туга і павесіць на 2 дні на холад. Потым адварыць у вару ад 1 — да 20 мінут і павесіць ізноў на холад.

**Каўбаса з крыві.** Бярэцца 1 клгр. вельмі тлустай сьвініны, $^1/_4$ клгр. галавы, $^1/_4$ клгр. ліверу (вантробкі), паўпечэні; варацць з рознымі спэцыямі (прыправамі) 2 гадзіны; потым нажом дробна рэжыцца, прыбаўляецца $^1/_2$ клгр. дробна парэзанага сала, соліцца, перыцца прастым і ангельскім перцам, пасыпаецца лыжачка імбіру, вымешваецца калатушкай, падліваецца патрохі крыві, каб была каша даволі густая, наліваецца няпоўна глухая кішка, завязваецца і варыцца 1 — 30 мінут. Калі пры праколе каўбасы няма крыві — каўбаса гатова; выймаецца, палошчыцца і кладзецца сьперша пад лёгкі прэс, а потым (цераз дзень) прэс павялічваюць. Прэс здымаецца цераз 2 дні. Можна капціць.

**Каўбаса беларуска-літоўская.** Бярэцца 4 клгр. тлустай сьвініны, 1 клгр. худой сьвініны (любовіны), 1 клгр. цяляціны, дробна пасячы, выймаючы ўсе жылкі, потым парубаць нажом, палажыць лыжачку сялетры, лыжачку прастога і англійскага перцу (дробна патоўчанага), лаўравага лісту, майорану (дастаць у крамцы або аптэцы), каля

1 шклянкі солі, добра вымясіць, уліўшы перад гэтым поўшклянкі сьпірту; палажыць ¼ клгр. дробна парэзанага палоскамі сала ад патыліцы або брушыны; выбіць лапаткай, набіць валоўі кішкі, каб ня было пустых месц, туга перявязаць вяровачнымі петлямі ўсю кішку, палажыць на 2 дні пад прэс, потым вынясьці з прэсам на холад і паступова павялічваць прэс. Цераз 2 тыдні выймаюць, прасушваюць на скразьняку. Перахоўваюць у сухім пяску або попеле. Загатаўляецца да Каляд. Ляжаць можа цэлы год.

## Праўныя парады.

**Пытаньне:** 1) Наша вёска мае ў жандовым лесе уласную сенажаць. Ці маем мы права лічыць на прагон да яе скаціны?

2) Ці мае права вёска не дазволіць паасобным гаспадаром трымаць у вёсцы гусей?

3) Ці можа вёска забараніць паасобным гаспадаром пасьвіць сваю скаціну асобна ад вясковай?

**Янка Рудак.**

**Адказ.** 1) Калі сенажаць належыць да катэгорыі зямлі надзельнай, дык на прагон скаціны цераз дзяржаўны лес вёска мае права.

2) Вёска паасобным гаспадаром забараніць трымаць гусей ня мае права.

Паасобным гаспадаром, калі зажадаюць пасьвіць сваю скаціну асобна, як на чужых, так і на супольных сенажацях, вёска забараніць ня можа. Калі пры гэтым робіцца шкода ад спасваньня сенажацяў, дык тут на гэта можна рэагаваць толькі судовым парадкам.

**Пытаньне.** Жаніўся я ў 1924 г. Жонка мае брата і сястру. Апошняя замужам ужо 23 гады. У брата маей жонкі маецца маёмасьць: 16 дзес. надзельнай і 4 дз. купленай і будоўля.

Ці мае права на гэту маёмасьць мая жонка і на якую долю?

**А. С.**

**Адказ.** Калі жончын бацька памёр пасьля 14-VI 1922 г., дык на надзельную зямлю мае права ваша жонка, сястра і брат жонкі на роўных правох у тым выпадку, калі яна не атрымала пасаг, роўны яе долі, ці фармальна не зраклася яе перад выходам замуж. Тое самае і з купленай зямлёй, калі яна куплена жончыным бацькам.

Лёс будоўлі такі самы, як і зямлі, на якой яна стаіць.

# ХРОНІКА.

## Наша хроніка.

**48.299.770 злотаў на асадніцтва.** Дня 14 г. м. у Акружным Земскім Урадзе ў Горадні, дзе адбылася конфэрэнцыя ў справе вайсковага асадніцтва, Міністр Reform Rolnych у сваей прамове падкрэсьліў, што „незадаволенасьць вайсковых асаднікаў ня мае рацыі, бо яны ўжо атрымалі 48.299.770 зл., ці па 5.000 зл. на кожнага асадніка. Далей Міністр адзначае: „... ня ёсьць гэта зашмат, але бяручы пад увагу, наданую безплатна зямлю... прыходзім да пераконаньня, што вайсковыя асаднікі ня ёсьць забытымі, а скарэй былі і ёсьць упрывіліёванымі цераз Дзяржаву...

„Нарэшце прагну адзначыць" — кажа Міністр — што сумы гэтыя не абыймаюць крэдытаў доўгатэрміновых, мэлерацыйных, розных крэдытаў спэцыяльных, крэдытаў з касаў Spółdzielczych, а роўна крэдытаў за пасярэдніцтвам Цэнтральнай Касы цераз Bank Rolny."

**Беларускія календары.** Т-ва Беларускае школы пачала друкаваць календар кніжку на 1930 год. Адрыўны календар хутка выйдзе з друку.

Календары разам з іншымі зьмяшчаюць і багатыя аддзелы па сельскай гаспадарцы.

**У беларускай друкарні.** У Беларускай друкарні ім. Фр. Скарыны, належачай да беларускіх хадэкаў і сель-саюзьнікаў, на днях была спынена праца, быццам, як падае польская прэса, за невыкананьне ўсіх прадбачаных законам фармальнасьцяў пры дагаворах з закашчыкамі.

У азначанай друкарні ў астатнія часы друкаваліся амаль ня ўсе беларускія друкі, у тым ліку і „Наша газэта" — культурны тыднёвік і „Сьвет" — тыднёвік беларускіх радыкалаў.

Друкарні цераз два дні працу дазволілі, але друкарня *на далей адмовілася ад друку названых газэтаў, а роўна і іншых прац радыкалаў.* Такі лёс спатыкае радыкальную прэсу і *ў-ва ўсіх іншых друкарнях гор. Вільні.*

**Яшчэ суд над былымі пасламі Браніславам Тарашкевічам і Сымонам Рак-Міхайлоўскім.** 20 гэтага месяца ў Віленскім Акружным судзе разглядалася справа былага старшыні Беларускай сялянска-Работніцкай грамады Б. Тарашкевіча, які абвінавачваецца па 129 арт, за мітынг у залі кінэматографа „Гэліос". Мітынг пракуратарскія ўлады знайшлі нелегальным. Дзякуючы няяўцы некаторых сьведак з боку абвінавачваньня, на настаяньню абаронцы Петрусэвіча, суд адложаны.

Некалькі дзён назад у Лідзе адбыўся суд над былым паслом С. Рак-Міхайлоўскім, быццам, за нелегальны мітынг у 1923 годзе. Суд не знайшоў віны і Рак-Міхайлоўскага апраўдаў, які цяпер адбывае разам з Тарашкевічам кару за „Грамаду“.

У свой час прокуратарскія улады дамагаліся ад Сойму выдачы Рак-Міхайлоўскага за справу, па якой Акружнк суд у Лідзе яго апраўдаў.

**Прэзыдэнт Польскае Рэспублікі на Беларускіх землях.** Прэзыдэнт Польскае Рэспублікі, абʼежджаючы Заходнюю Беларусь, наведаў Навагрудак, дзе палажыў першы камень пад будову беларускае гімназіі. На гэту урачыстасьць з Вільні паехалі некалькі настаўнікаў Віленскай Беларускай Гімназіі на чале з Астроўскім. Іншыя беларускія арганізацыі гор. Вільні ад прыняцьця ўчасьця на ўрачыстасьці ўстрымаліся.

# Усходняя Беларусь.

## Фасфарытны завод.

Урад БССР будуе фасфарытны завод. Ужо закуплена 100.000 пуд. фасфарытнае руды, якая скіроўваецца па рацэ Сожы. Рака Сожа шпаркім тэмпам паглыбляецца чарпацельнымі машынамі.

Адначасна будуецца ў Клімаўцах фасфарытны млын, які будзе перамалываць фасфарытную руду. Сырцу для млына ужо дастаўлена звыш 100.000 пуд.

## Культур—асьветнікі як аграпрапагандзістыя.

Па закліку Ураду культур-асьветнікі пачалі шпарка працаваць у галіне сельскае гаспадаркі, стараючыся падняць яе прадукцыйнасьцю. Шмат увагі культур-асьветнікі зьвярнулі на апрацоўку школьных зямельных вучасткаў, каб зрабіць іх прыкладнымі для акалічнага сялянства.

Асьветнікі разгарнулі шырокую працу па дапамозе старым і арганізацыі новых калгасаў і таварыстваў, каапэраваньні насельніцтва, па пашырэньні пасеўной плошчы, за лепшую апрацоўку зямлі, за ідэальную ачыстку насеньня, машыназацыю сельскае гаспадаркі і г. д.

## Увагі прафэсара Лявіцкага аб с. гаспадарцы Беларусі.

Сябра саюзнага камітэту па хэмізацыі сельскае гаспадаркі праф. Лявіцкі — адзін з старэйшых і выдатнейшых дасьледчыкаў СССР, наведаў Навуковы Інстытут у Менску, дзе знаёміўся са становішчам вапнаваньня глебы на Беларусі і досьледамі ў галіне аграхэміі.

7 жніўня ў будынку Дасьледчага Інстытуту праф. Лявіцкі зрабіў даклад на тэму: „Чарговыя задачы хэмізацыі сельскае гаспадаркі.“

Па думцы праф. Лявіцкага, Беларусі належыць адно з першых месцаў у справе тэхнічнай рэконструкцыі і прагрэсу сельскай гаспадаркі падзолістых раёнаў.

## Тыдзень торфу.

Наркамзем Беларусі ў пэрыяд 10—25 жніўня наладзіў „Тыдзень торфу“ На працягу тыдня спэцыялістыя Наркамзему і іншыя працаўнікі, знаёмыя с тарфяной справай асьвятлялі на старонках друку скарыстаньне торфу і яго значэньне ў сельскай гаспадарцы.

## Машыназацыя торфа—распрацовак.

Сёлета на Міхановіцкіх торфараспрацоўках упершаню ўстаноўлена машына з мэханічным абсталяваньнем. На машыне працуюць на зьмену дзьве арцелі.

Дзякуючы машыназацыі торфараспрацовак норма выпрацоўкі на арцель павышана да 35.000 цаглін у дзень.

## Беларусае шкло заграніцай.

Беларускі шкляны трэст значна пашырыў сваю экспартную праграму. Вываз беларускага шкла за граніцу за апошнія часы павялічыўся на сто проц.

Шклофарфаравы камітэт пераводзіць заводы „Домбаль“ у Барысаве і „Ноўкі“ у Віцебскай акрузе выключна на выпрацоўку экспартнага шкла, для вырабу якога на Беларусі працуюць дзьве трэціх часткі усей СССР шкляной прамысловасьці.

Беларускае шкло асаблівам посьпехам карыстаецца ў Турцыі і выцясьняе там шкло Чэха-славацкае.

У зьвязку з разгортаваньнем экспарту беларускага шкла, заводы пераводзяцца на непарыўны рабочы тыдзень.

---

# Наша пошта.

**А. Сепаку.** Паміж іншым Вы пішаце: *„Пара „Сасе“ пажагнацца з убостван і перайсьці да выданьня гаспадарчае часопісі ў большым абыйме і з багатымі ілюстрацыямі. „Саху“ у нас чытаюць ахвотна і кожны раз цікавяцца, ці ўжо мы не атрымалі. Спадзяюся, што выдавецтва „Сахі“ зразумее гэты свой грамадзкі абавязак...*

Прачытаўшы гэтыя радкі, рэдакцыя пацікавіліся паглядзець на Вашу падпіску і ўбачыла, што Вы другі год не не жадаеце ўрэгуляваць. А між тым, вымаганьне ў Вас, хіба ня беднага чалавека. Вось, паважаны грамадзянін, па-

1·1507

ра ня толькі „Сасе“ зразумець свае грамадзкія справы якія яна выконвае напружваючы ўсе свае жылы, *але і яе чытачом.* „Саха“ істнуе на падпісках і раз ёсьць у „Сасе“ бракі, як абыйм часопісі, адсутнасьць ілюстрацыяў, дыковіну тут трэба шукаць у тых чытачоў, якія любяць чытаць дарма. Падпіска на „Саху“ — 3 зл. — хіба даступна кожнаму беднаму чытачу—раз ён чалевек грамадзкі сьвядемы. А гэтакі чытач ня толькі сам акуратна будзе высылаць свой доўг перад рэдакцыяй, але пашукае яшчэ новых надпішчыкаў. Гэтым мы пераможам убоства „Сахі.“

**А. Касяку, Т. Ярмейчыку С. Багдановічу, П. Сычу і іншым.** Высылку „Сахі“ спынілі, бо не ўрэгулявалі да гэтага часу падпісной платы.

**К. Сьветавастокаву.** Зьвярнецеся да консула СССР. ў Варшаве. (Пазнанская 15).

---

# Цэны ў Вільні 24.IX-1929 г.

| | | |
|---|---|---|
| Жыта 100 кілёграмаў | . . . . . . . . . . | 25.00—25.00 |
| Пшаніца „ „ | . . . . . . . . . . | 48.00—40.00 |
| Ячмень „ „ | . . . . . . . . . . | 24.00—26.00 |
| Авёс „ „ | . . . . . . . . . . | 25.00—26.00 |
| Вотрубі „ „ | . . . . . . . . . . | 19.00—22.00 |
| Мяса кароўе 1 кгр. | . . . . . . . . . | 2.30 — 2.80 |
| „ цяляціна „ | . . . . . . . . . . | 2.10 — 2.60 |
| „ бараніна „ | . . . . . . . . . . | 2.00 — 2.60 |
| „ сьвініна „ | . . . . . . . . . . | 2.80 — 3.20 |
| Саланіна „ | . . . . . . . . . . | 3.80 — 4.60 |
| Масла салёнае 1 кгр. | . . . . . . . . . | 5.00 — 3.50 |
| „ несалёнае „ | . . . . . . . . . . | 5.50 — 6.00 |
| Твораг „ | . . . . . . . . . . | 0.80 — 1.00 |
| Сьмятана 1 літр | . . . . . . . . . | 1.80 — 2.00 |
| Малако 1 „ | . . . . . . . . . . | 0.35— 0.40 |
| Яйкі 10 шт. | . . . . . . . . . | 1.80— 2.00 |
| Бульба „ „ | . . . . . . . . . . | 9.00—10.00 |
| Цыбуля „ | . . . . . . . . . . | 0.40— 0.50 |
| Капуста „ | . . . . . . . . . . | 0.15— 0.20 |
| Яблыкі | . . . . . . . . . . | 0.50— 1.30 |
| Памідоры 1 кгр. | . . . . . . . . . | 0.70— 0.80 |
| Куры 1 штука | . . . . . . . . . | 5.00— 7.00 |
| „ маладая | . . . . . . . . . | 1.50— 2.50 |
| Вуткі (качкі) | . . . . . . . . . | 6.00— 8.00 |
| „ маладыя | . . . . . . . . . | 3.00— 4.00 |
| Гусі | . . . . . . . . . . . . . | 8.00—12.00 |
| Індыкі маладыя | . . . . . . . . . . | 5.00— 7.00 |

---

Рэдактар і Выдавец **А. Уласаў.**